Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

17—23 кастрычніка 1998 года
№ 68 (148)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### На канферэнцыі ў Варшаве

14—16 кастрычніка ў Варшаве, у памяшканні польскага парламента, праходзіла III Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека, прысвечаная 50-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і святкаванню Сусветнага года правоў чалавека. Яе ўдзельнікі шукалі разам адказы на пытанні: што дала нам Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека? Што ўдалося зрабіць на працягу 50 гадоў яе існавання? Якія новыя пытанні вылучае перад людзьмі XXI стагоддзе? Як забяспечваюцца правы чалавека ў розных краінах цяпер?

Удзел у канферэнцыі бралі і прадстаўнікі Беларусі: праваабаронцы, апазіцыйныя палітыкі, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, родныя палітвязняў. У іх ліку — і жыхарка Івацэвіцкага раёна Зоя Міхайлаўна Кудзінава, былы муж якой, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання У. Кудзінаў, знаходзіцца цяпер у турме.

### Презентация вечной посуды

В минувшее воскресенье Барановичский филиал всемирноизвестной фирмы "Цептер" проводил презентацию вечной посуды в малом зале ГДК г. Ивацевичи. Вниманию собравшихся были представлены образцы вечной посуды, продемонстрированы способы приготовления в ней пищи без воды, жира, проведена и дегустация блюд.

Посуда действительно вызывает восхищение и своим внешним видом, и пожизненной гарантией ее сохранения, и качеством приготовления пищи. Но цены — захватывают дух, как говорится. От 200 долларов США и выше. В наших условиях — посуда "Цептер" является удовольствием для обеспеченных людей. И они, к нашему удивлению, есть в Ивацевичах. Как сообщил нашему корреспонденту представитель Барановичского филиала "Цептер", в Ивацевичах, так же как и в Барановичах, фирма делает неплохой бизнес.



**Мы прывыклі да нашых пад'ездаў з паламанымі дзвярыма, пабітым шклом, засмечанымі пляцоўкамі, са сценамі, размаляванымі надпісамі і малюнкамі. Мы прывыклі да смецця і бруду.**

**Гэты ж дом пад нумарам 15 у Івацэвічах па вуліцы 60 год Кастрычніка вылучаецца чысцінёй і акуратнасцю. Жыльцы сочаць за парадкам, рэгулярна робяць уборку. Самымі ініцыятыўнымі аказаліся жыхары пятага паверха з другога пад'езда. Пасля рамонту, зробленага камунальнікамі, тры сям'і на лесвічнай пляцоўцы сёе-тое дарабілі самі, пафарбавалі поручні, памылі вокны, устанавілі падстаўкі і развялі там кветкі. Атрымалася прыгожа і ўтульна, зусім не па-казённаму (на здымку).**

## Не трэба зарплата. Давай нам свята

Нам думаецца, што ніхто не супраць добрых святаў. Без іх наша жыццё намнога стала б бяднейшым (маецца на ўвазе ў маральным плане). Што ж тычыцца пакроўскага кірмашу ў Івацэвічах, а таксама свята працы і Дня райцэнтра, то па сутнасці тры святы зліліся ў адно. Добра гэта ці дрэнна, меркаваць, вядома, наведвальнікам такога мерапрыемства.

З самай раніцы на плошчы ля чыгуначнага вакзала і ля яе гудзеў кірмаш. Многае спадабалася і гараджанам, і гасцям. І афармленне, і багаты выбар розных прадуктаў, напояў, садавіны і агародніны. Паказалі сябе з найлепшага боку самадзейныя артысты. Пераможцы сёлетняга жніва і на сяўбе азімых адзначаны граматамі і грашовымі прэміямі.

Усё, здавалася б, знешне выдатна. Але ж тыя, хто стаяў у чэргах, выказвалі незадаволенасць, нават абураліся.

З некалькіх гаспадарак раёна прывезлі мяса. Прадавалі проста з машын. Па камандзе зверху, тое мяса пусцілі ў продаж па цане, ніжэйшай, чым на рынку і ў крамах. Але дасталося па кавалку нямногім.

Праўда, ніхто не гаварыў аб тым, ці выгадна тым жа калгасам прадаваць сваю прадукцыю па такой цане. Галоўнае, што стварылі такім чынам паказуху.

У разрад дэфіцыту трапіла і збожжа. Дарэчы, яго сёлета сабралі значна менш, чым летась. Страты былі з-за непагадзі і ў першую чаргу з-за безгаспадарчасці.

Прадавалі толькі ячмень. Зноў жа ўсім не хапіла.

— Гляньце, — сказала пажылая жанчына, — вось тую машыну абступілі і забралі ўвесь ячмень людзі з сяла. А што ж гараджанам застанецца?

І напаследак пра ўзнагароды перадавікам сельскай гаспадаркі. Вядома, прыемна атрымаць падарункі. Як прагучала з імправізаванай сцэны, яны ад жыхароў райцэнтра. А іменна ад райпо і ААТ "Івацэвіцкі льнозавод". Сумняваюся, што кіраўнікі іх пыталіся ў сваіх рабочых ці служачых, што за іх кошт набудуць падарункі і ўручаць перадавікам сельскай гаспадаркі. Не вельмі яшчэ высокая зарплата ў нашых рабочых і прадаўцоў, каб адрываць ад сябе. Ледзь канцы з канцамі зводзяць, каб пракарміць свае сем'і.

Музыка гучала. Кірмаш і свята працягваліся. Ніхто на іх не сказаў ніводнага слова пра тое, што цэны за верасень — пачатак кастрычніка выраслі амаль у 3 разы, а ўзровень зарплаты застаўся ранейшым. Але як сказаў адзін івацэвіцкі жартаўнік, хто менш есць, той лепш танцуе!

## ЦЭНЫ ПЕРАМАГАЮЦЬ

Рост цэн і рост пенсій за апошнія два месяцы можна параўноўваць з забегам на кароткую дыстанцыю.

Ітак, на старце мы мелі сярэднюю пенсію ў 1 млн. 500 тысяч рублёў і параўнальна нізкія цэны (сення яны ўвогуле здаюцца смешнымі). Пасля, так бы мовіць, стартавога выстралу расійскага крызісу цэны вырваліся наперад з велізарнай хуткасцю. Параўнайце, калі ласка, цэны на некаторыя тавары і прадукты два месяцы назад і цяпер:

| | жнівень | кастрычнік |
|---|---|---|
| **рыс** | **30-35** | **85-100** |
| **манная крупа** | **30-40** | **100-120** |
| **грэчка** | **25-30** | **100-105** |
| **мыла гаспад.** | **16-18** | **48** |
| **алей** | **75-80** | **210-240** |
| **макар. вырабы** | **22** | **45-58** |
| **мука (в. г.)** | **16-18** | **36-38** |
| **цукар** | **30-31** | **60-65** |
| **цыгарэты (Астра, Прыма)** | **6-7** | **25-27** |
| **селядцы** | **60-70** | **110-160** |
| **рыба вэнджаная** | **80-120** | **250-350** |

Са старту зрушылі і трохі падаліся наперад пенсіі: сапраўды ў сярэднім пенсіі падраслі на 200-300 тысячаў рублёў. Але іх старт намнога слабейшы, чым цэнавы скачок. Калі пенсіі падраслі на 15-20 працэнтаў, то цэны на некаторыя тавары і прадукты ледзь не на 300 працэнтаў. Цэны перамаглі з яўнай перавагай. Да прыкладу, калі раней чалавеку ў месяц на курыва хапала 150-200 тысяч, то зараз трэба 600-800 тысяч (а улічваючы тое, што кошт на цыгарэты расце далей, то хутка на гэтую "забаву" патрэбна будзе мільён).

Праўда, на адзін від прадукту цана практычна не ўздымаецца. На гарэлку. За два месяцы яна вырасла толькі на 8-10 тысяч. У брэжнеўскія часы, для параўнання, бутэлька гарэлкі каштавала 3-5 рублёў, кілаграм кількі — 30-50 капеек. Зараз кошт кілаграма апошняй (87 тысяч руб) прыроўнены да кошту бутэлькі гарэлкі. Напэўна, улады лічаць, што пры распіцці бутэлькі гарэлкі цяпер закусіць можна і 10-цю грамамі кількі.

БАРАНАВІЧЫ

### Профессия — спорт

Училище олимпийского резерва начало свою работу в Барановичах с 1-го сентября. Уже больше месяца там в девятом классе учатся 30 мальчишек и девчонок. Их день начинается с двухчасовой тренировки в 6 часов утра. После — завтрак, уроки и снова тренировка — до 21 часа. Такой жесткий режим выдержать под силу не каждому. В школьной программе у ребят нет никаких послаблений. Скорее наоборот — в училище принимались только те, кто учился на 4 и 5. С каждым учащимся заключён годовой контракт. В случае его нарушения — отчисление.

После окончания училища ребята получат диплом с квалификацией тренер или учитель физкультуры. Желающие могут продолжить учёбу в аналогичном заведении г. Бреста и, проучившись там два года, быть зачисленными на III курс Брестского университета на факультет физвоспитания.

Содержание одного учащегося обходится государству в 6—7 млн. рублей в месяц.

### Выкінуў з акна

37-гадовы жыхар г. Баранавічы Д. рабіў у кватэры пенсіянеркі Б. рамонт. Ці то яна аказалася занадта патрабавальнай да якасці аддзелачных работ, ці то не зышліся ў цане, толькі рабочы, узяўшы жанчыну на рукі, выкінуў яе з акна яе ж кватэры, размешчанай на трэцім паверсе.

У выніку падзення пенсіянерка атрымала пераломы рукі і нагі, мноства ўдараў засталося на целе і твары. Жанчыну завезлі ў бальніцу. Рабочага ж змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

### Опасная любовь

Рост венерических болезней в г. Барановичи пошел на спад. Так утверждают специалисты кожно-венерологического диспансера.

По сравнению с годом прошедшим в году текущем выявлено 195 случаев заболеваемостью сифилисом против 322 (за 9 месяцев). Большая часть больных (51,8%) — не работающие. 25% составляют рабочие, 4,6% — учащиеся ПТУ, техникумов и школ, 2% приходится на пенсионеров. Ситуация с заболеваемостью гонореей остаётся примерно на прежнем уровне — зарегистрировано 156 случаев, в прошедшем году — 154.

Несмотря на это в Барановичах несколько месяцев назад появился на свет ребенок с врожденным сифилисом. Его мать — работник медучреждения. Сейчас девочка находится на излечении.

### Прыходзь і глядзі

"Мой горад родны" — так называецца выстава мясцовых мастакоў, адкрытая ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі. Упершыню ўдалося сабраць пад адным дахам лепшыя работы усіх майстроў пэндзля горада — звыш трох дзесяткаў аматараў і прафесіяналаў.

— Выстава атрымалася на рэдкасць цікавай, прыгожай і шматпланавай, — гаворыць загадчыца выставачнай залы Ірына Станюк. — Прадстаўлена 80 работ самых розных відаў выяўленчага мастацтва.

Выстаўленыя работы наведвальнікі могуць купіць.

БЯРОЗА

### Начны пярэпалах

Цяжка передаць той перапуд састарэлай жанчыны К. з вёскі Рэчыца, калі яна сярод ночы ад грукату і ляску ўскочыла з ложка і ўбачыла перад сабой выбрачаную сцяну і кабіну "КамАЗа". Патрывожыў сон пенсіянеркі вартаўнік Н. з Белаазёрскага энергамеханічнага завода, які прыняўшы дозу спіртнога, ганяўся на аўтамабілі па шашы. Не справіўшыся з кіраваннем вялікагрузнай машыны, ён урэзаўся ў жылы дом. Зразумеўшы, што нарабіў бяды, ліхач уцёк з месца здарэння. Затрымалі яго міліцыянеры пад раніцу ў дызель-цягніку.

П'яная прагулка вартаўніка дорага абыйшлася: грузавік разбіты, дом пашкоджаны. Урон, нанесены ім, ацэньваецца ў 700 мільёнаў рублёў.

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ (Івацэвічы), А. ЛАЎРАНЮК,(Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы) і фотакарэспандэнт А. ГАНЧУК.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Створана Асацыяцыя выдаўцоў і кіраўнікоў рэгіянальнай недзяржаўнай прэсы

***У пачатку кастрычніка ў Міжнародным маладзёжным цэнтры "Юнацтва" выдаўцы і кіраўнікі болей дваццаці рэгіянальных СМІ стварылі сваю асацыяцыю.***

Гэтай падзеяй завяршыўся семінар пад назвай "Ці існуе ў Беларусі магчымасць арганізацыі незалежнай рэспубліканскай прэсы?". Арганізаваў гэта мерапрыемства Інстытут падтрымкі дэмакратыі ва Усходняй Еўропе сумесна з Сусветнай асацыяцыяй газет і Беларускім грамадскім цэнтрам "Супольнасць" пры фінансавай падтрымцы Савета Еўропы.

Сярод сяброў створанай асацыяцыі выдаўцы і кіраўнікі такіх газет, як "Рэгіянальная газета" (Маладзечна), "Інтэкс-прэс" і "Шаг" з Баранавіч, гродзенская "Біржа інфармацыі", "Новая газета Смаргоні", "Газета Слонімская", "Газета для вас" (Івацэвічы), "Брестский курьер".

Асноўнымі накірункамі дзейнасці стваральнікі асацыяцыі бачаць супрацоўніцтва ў сферах рэкламы, друку, распаўсюджвання незалежнай прэсы.

Кансультацыйную дапамогу ўдзельнікам сходу аказалі вядомыя спецыялісты па мас-медыя з Францыі, Польшчы і Югаславіі.

## На ўвесь раён — ніводнага калгаса

***Ужо некалькі гадоў у Нясвіжскім раёне няма... калгасаў. Усе гаспадаркі называюцца інакш — аграфірма, калектыўнае прадпрыемства, акцыянернае таварыства...***

Адбылася не механічная замена старых назваў на новыя, а змена сутнасці землекарыстання, арганізацыя працы. Акцыі, гаспадарчы разлік, перапрацоўка прадукцыі на месцы, самастойная (без пасрэднікаў) іх рэалізацыя — вось асноўныя накірункі гаспадарання.

Час паказаў, што яны больш эфектыўныя, чым ранейшыя. Раён па атрыманні сельскагаспадарчай прадукцыі займае адно з першых месцаў у Беларусі — і па ўраджайнасці, і па вытворчасці мяса, малака.

Прыклад несвіжан сведчыць, што пераход на новыя формы арганізацыі сельскай гаспадаркі наспеў, што дарэмна прыхільнікі калгаснай сістэмы ўліваюць у яе дзесяткі трыльёнаў рублёў, а яна ўсё роўна не дае патрэбнай аддачы. То ці не разумней выкарыстаць гэтыя сродкі на іншыя мэты?

## Транспарт: новыя тарыфы

***Першымі падняліся цэны на праезд у прыгарадных і міжгародніх аўтобусах.***

Гэта адбылося ўжо 16 кастрычніка. За кожны кіламетр дарогі ў звычайным прыгарадным аўтобусе трэба плаціць 700 рублёў замест былых 540. У "мяккім" міжгародн ім аўтобусе квіткі будуць даражэйшымі на 170 рублёў за кожны кіламетр.

Як паведамляе міністэрства аўтатранспарту, рыхтуецца павелічэнне тарыфу і на паслугі таксі. Пакуль кіламетр праезду "на маторы" каштуе 11 тысяч рублёў. "Новая цана будзе ад 13 да 15 тысяч за кіламетр — у кожным горадзе можа быць па-свойму", — патлумачылі ў аддзеле фінансаў і тарыфаў міністэрства.

Рыхтуецца да павелічэння тарыфу і ў Мінскім упраўленні гарадскога транспарту. З 1 лістапада праезд у аўтобусе, тралейбусе, трамваі і метро будзе каштаваць 3 тысячы рублёў замест цяперашніх 2.600. Але гэта ўсё роўна не вывядзе гарадскі транспарт на ўзровень рэнтабельнасці, кажуць транспартнікі і прагназуюць, што з 1 студзеня прыйдзецца падымаць тарыфы да 4.000 рублёў.

## Белорусскому народному фронту "Адраджэнне" — 10 лет

***Фронт намерен широко отметить дату на всей территории Беларуси.***

В Минске запланированы юбилейные мероприятия, на проведение которых получено разрешение столичного горисполкома. В связи с десятилетием БНФ 18 октября, в воскресенье, на площади Якуба Коласа состоится праздничный митинг, на который приглашаются члены фронта и сторонники движения. 19 октября, в понедельник, во Дворце культуры производственного объединения "Сукно" (улица Матусевича, 20) начнется, как определили жанр события его организаторы, "урачыстая імпрэза". На вечер также приглашаются единомышленники, журналисты и просто гости.

*(БелаПАН).*

ИЗ ИСТОРИИ УНИАТСКОЙ ЦЕРКВИ

# Мученический путь развития

**(Окончание. Начало в №№ 62, 65, 66, 67).**

### Под рукою Москвы и Санкт-Петербурга. Ликвидация Унии.

В 1772 г. наступил первый раздел Речи Посполитой. Москве отошли епископства Полоцкое и Могилевское. Екатерина II обещала, что со стороны России для униатов не будет никакого притеснения. Однако в 1780 г. издала указ, которым предписывала всем униатам перейти или в православие, или в католицизм, а на место умерших униатских священников ставить только православных. Тюрьмы пополнились униатскими священниками, монахами.

**За годы царствования императрицы Екатерины II было насильно переведено в православие более трех миллионов униатов.** После этого все униатские епархии, кроме Белорусской (Полоцкой), были уничтожены.

Наследник Екатерины II Павел I дал Унии свободу. Униатам были возвращены 8 монастырей, епархии Луцкая и Брестская. За недолгое царствование Павла I к Святому Церковному Единству вернулось 1.388 приходов, 90 монастырей, 1,5 миллиона верующих. Павел I хотел дать свободу Церкви и свободу крестьянам, за что и был свергнут с престола. Он поддерживал тесные контакты с Римом и желал видеть Церковь такою, какой ее определил быть сам ее основатель Иисус Христос — **Единой**. За то, что этот человек хотел видеть подвластные ему народы свободными и счастливыми, он был объявлен чуть ли не сумасшедшим и его имя порочили не только его последователи на Российском престоле, но и все 70 лет советской власти.

**До 1825 г. Уния в России имела полную свободу и привлекала на свою сторону все большее число верующих. Но это было затишье перед бурей.**

1825 год — год воцарения страшного врага Унии Николая I. Девизом своей внутренней политики новый император объявил "Самодержавие, Православие, Народность". Был взят курс на русификацию и православизацию народов. К 1832 г. он уничтожает все униатские монастыри. Архиереев западных губерний назначали




***Икона святой Параскевы Полоцкой. Находится в иконостасе церкви Св. Параскевы Борисоглебского монастыря в Полоцке.***

из лиц чисто русского происхождения. Из униатских церквей изымались все богослужебные книги и униатам было приказано молиться по православным книгам. На службе церковной поминать не Римского Папу, а членов Синода царской фамилии. Униатских священников, отказавшихся перейти в православие, в кандалах угоняли в Сибирь. У них силой забирали детей и отдавали на воспитание в православные семьи центральной России. Чтобы сломить оппозицию белорусского духовенства по плану православного епископа Иосифа Семашко, самовольно захватившего митрополичью кафедру, был применен целый ряд полицейских мер: униатские священники переводились из одной епархии в другую, лишались приходов, высылались в Россию, подвергались заточению по монастырям. Вследствие принятых Семашко мер согласие униатского духовенства на соединение с православными было достигнуто, и в 1839 г. в Полоцке был подписан "Соборный акт" о соединении церкви униатской с православною. Согласно этому документу греко-униатам оставлены были некоторые обряды и обычаи, не противоречащие сущности православия.

Меры, принятые Семашко в деле соединения униатов с православием, одобрялись далеко не всеми русскими архиереями. Некоторые из них называли Семашко Иудою-предателем.

По смерти Николая I в царствование Александра II в народе прошел слух, что царь дает свободу веры. Верующие стали опять массово переходить в униатство. Тогда Семашко с войсками начал нападать на сёла, мучить народ и силой вести его до церкви, где православные священники насильно причащали верующих. Вновь лилась кровь.

Сёла и местечки, твердые в своей вере, целиком переселялись в Сибирь и центральные районы России. Их места заселялись русскими колонистами. **Так Уния на территории Российской империи была задушена руками российских властей и армии.**

***Прочитаны последние страницы. Вы пополнили еще один пробел в копилке знаний о Беларуси. Беларуси, которая с большими трудностями идет по пути возрождения, в том числе и духовного. Национальная церковь (униатская) действует. В Минске и Бресте, Полоцке и Гродно, Барановичах и Ивацевичах, в Лиде и Гомели, в других городах и райцентрах верники молятся Богу по-белорусски в униатских парафиях. Слава Господу Богу!***

*По материалам печати подготовила Н. ЧИКИТА.*

СКВОЗЬ ТЕРНИИ — В РЫНОК

# Пьющие и непьющие предприятия

Похоже, в Барановичах взялись всерьез за борьбу с пьянством. Милиция обложила питейные места и не пропускает ни одного, без меры употребившего спиртного, без строгой воспитательной беседы, которую заканчивают чаще всего в медвытрезвителе. Охота правоохранительных органов на подвыпивших горожан приняла, как говорится, массовый характер. Может, оно и к лучшему для жителей. А то утром не пробиться на работу или по другим делам сквозь строй нахальных алкоголиков и бичей, уже не просящих, а требующих денег на похмелку. Они же лопошат огороды, сады, снимают белье, в общем, стригут все, что плохо лежит и на "точках" обменивают на чернила и самогон. Есть, по слухам, менялы, платящие однойдвумя бутылками самогона и за полотенце, и за стиральную машину. Система эта закольцована надежно: пить можешь сколько угодно, где захочешь, а с государством через медвытрезвитель, будь добр, рассчитайся.

Иное дело — промышленные предприятия. На некоторых из них любителей выпить в рабочее время или явиться на смену с похмелья просто вывели, как блох, простите за выражение. В локомотивном депо этим занимается компьютерная техника. Никаких просьб, уговоров. Показал прибор концентрацию спиртного в организме — он же по рас-



считанной системе наказаний выдает решение: на метлу (подсобные работы), штраф, лишение премиальных, увольнение по соответствующей статье. Бесстрастный, неподкупный компьютер оказался действеннее всяких там товарищеских судов, воспитательных мероприятий и пр.

В автобусном парке нет средств на приобретение электронных "вытрезвителей". Работу по постоянному, систематическому контролю за трезвым состоянием коллектива взвалили на медпункт. В начале и конце смены все (все до одного!) работники парка обязаны пройти обследование нарколога. Здесь эту процедуру называют "пройти тиск". Доктор отмечает состояние человека в специальном "цетлике", выдаваемом водителям, слесарям, инженерам ежедневно. Если анализ отрицательный — за проходную! Так безжалостно был уволен "по собственному желанию" слесарь с 25-летним стажем работы в парке. Пожалели за возраст. Отпустили с миром. Одна бригада из четырех человек три дня не сдавала "цетликов". Коллективное увольнение. Три отработанные смены без отметок нарколога не оплачены по пункту Договора.

Видимо, такое бескомпромиссное отношение к любителям выпить и позволяет предприятиям до минимума снизить травматизм, уровень воровства, повысить качество ремонта тепло- и электровозов, автобусов.

Для сравнения: иные пьянчужки сигают через забор на автоагрегатный завод купить у станочника специально для этой цели принесенную самогонку. На многих новостройках по утрам прозорливые старушки собирают пустые бутылки.

Возрождающееся общество борьбы за трезвость могло бы обратить внимание на такие разные отношения к пьянству и, не прекращая собирать членские взносы, заняться воспитанием руководителей "пьющих" предприятий.

*П. НАГНИБЕДА.*

● ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

# ТАК ТРЫМАЦЬ, ВАЕНУРАЧ ЕЛІСЕЕВА!

У ваенных урачоў свой адметны лёс. У кожнага з іх вайна была не толькі цяжкая і складаная праца ў медсанбаце ці шпіталі, але перш за ўсё суровае выпрабаванне чалавечых нерваў і характараў. Калі з дня ў дзень перад табой то смерць, то кроў, то жудасныя крыкі і стогны параненых, то іх просьбы: "Доктарка, выратуй мяне. У мяне ж дома двое дзетак расце", або: "Сястрычка, дай што-небудзь, каб я так не пакутваў. Які з мяне жылец?", то не многія, асабліва маладыя медыкі , вытрымлівалі такое выпрабаванне. Але той, хто застаўся, рабіў усё гэта па загаду ўласнага сэрца, пераадольваючы нават самога сябе, свае сумненні і страх. Штосьці падобнае перажыла і Наталля Елісеева, пачаўшы свой працоўны шлях, як ваенная медыка, у першыя дні вайны.

...Вёска Лучыквай, Ігрынскі раён, Удмурцыя. Тут, яшчэ да кастрычніцкай рэвалюцыі, нарадзілася Наташа. У сялянскай сям'і. У 1930 годзе бацькі ўступілі ў калгас (так ва ўсякім разе напісана ў аўтабіяграфіі Наталлі Елісеевай).

Стаць доктарам простай сялянскай дзяўчынцы тады толькі можна было марыць. Але Наташа, працуючы з бацькамі то на ўласным агародзе, то ў калгасе, не пераставала думаць пра вучобу. Цяжкасць яшчэ заключалася ў тым, што не кожны мог атрымаць даведку з сельсавета. Не будзе такой паперкі і цябе нідзе не прымуць ні на працу, ні на вучобу. Відаць, дзяўчынцы пашчасціла, бо такую даведку ёй выдалі, і яна паступіла на медыцынскі рабфак у г. Іжэўску. Тры гады вучобы не былі лёгкімі для Елісеевай. Чацвёра дачок у сям'і бацькоў. Гэта не жартачкі. Не заўсёды і пад'еўшай была, але навуку, як кажуць, грызла з ахвотай. Таму і параілі Наташы вучыцца далей. Хаця бацькі адкрыта і не выказвалі незадаволенасці, аднак адчувалася, што ім з кожным днём усё цяжэй забяспечваць дачку ўсім неабходным. Горад не раўня вёсцы, у ім толькі грошы падавай.

Яшчэ пяць гадоў аддадзены вучобе ў Іжэўскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце. Апошні экзамен здавалі ў выхадны, якраз на нядзелю папала. Пасля здачы пайшла Наталля з сяброўкамі ў магазін. Як-ніяк, а пара студэнцтва закончылася і хацелася штo-небудзь памятнае набыць. Але нічога не купілі, магазіны былі закрыты. Вярнулася ў інтэрнат, пачалі думаць, як лепей падрыхтавацца да выпускнога інстытуцкага вечара. А тут нечаканa паведамілі: вайна...

Не атрымаўшы нават дыплома аб заканчэнні медінстытута, Наталля Елісеева, як і астатнія выпускнікі, была мабілізавана ў армію. З 5 ліпеня пачала працаваць урачом-ардынатарам у эвакуіраваным шпіталі № 1737 у горадзе Глазаў. Праз паўгода Елісееву накіравалі ў 2-е Ленінградскае ваенна-пяхотнае вучылішча, дзе знаходзілася на пасадзе маладшага ўрача да 25 красавіка 1942 года.

З 4 мая 1942 года і да канца вайны Наталля Елісеева ў прыфрантавых медсанбатах. Спярша яна ўрач-ардынатар тэрапеўтычнага ўзвода, а затым камандзір такога ж узвода.

Чым жа займаліся тэрапеўты ў медсанбатах?

— Ведаеце, — расказвае Наталля Мікалаеўна, — першая нагрузка заўсёды падала на хірургаў. Аперацыя за аперацыяй. Добра, калі ў медсанбаце іх было два і больш. Прааперыраваныя параненыя паступалі да нас, тэрапеўтаў. Тут і пачыналася сапраўдная барацьба за жыццё. Колькі іх, салдацікаў, так хацела яшчэ жыць, колькі іх ад нясцерпнага болю прасілі смерці і гублялі прытомнасць. Уяўляеце, тры гады з такімі вось пацыентамі. Ад адных перажыванняў кругам ішла галава. Ох, якія моцныя нервы трэба было мець усім, хто там працаваў. Сёння здзіўляюся, як магла я вытрымаць...

Наталля Мікалаеўна, адпачыўшы, не перастае здзіўляцца і далей:

— Кажуць, што прызванне медыка лячыць хворых. Так, так, хворых. Але за ўсю вайну ў медсанбат не паступалі хворыя. Салдаты вайны не хварэлі. Нічога не брала байцоў — ні холад, ні сцюжа, ні мароз. Адны параненыя праходзілі праз аперацыйны стол. Не верыце?



Ваенурач Н. М. Елісеева (здымак 70-х гадоў).

Нельга не верыць чалавеку, які прайшоў праз усё гэта, сам перажыў боль, пакуты і радасці разам са сваімі пацыентамі, зведаў бяссонныя ночы, словам, ваяваў, нібы на перадавой, за жыццё кожнага салдата і лічыў сябе пераможцам у кожным выпадку, калі смерць адступала і ў вачах параненага загаралася іскрынка жыцця.

Вочы — люстэрка чалавека. У іх можна ўбачыць усё: і стан здароўя, і стан душы, і нават прадказаць будучыню чалавека. Так лічыць Наталля Мікалаеўна. Яна спярша сама не верыла гэтаму. Гады ваеннай працы, а потым і пасляваенны час навучылі, а потым і пераканалі як быццам у неверагодным. Аднойчы пацыент Наталлі пасля аперацыі кожны дзень маліў, каб дала ўкол ці якога парашка, бо трываць нельга, дый каму ён патрэбен без ног, без правай рукі і з адным вокам, якое да таго ж пастаянна слязілася. Доўга сядзела ля ложка салдата Максіма доктарка, гутарыла з ім, пераконвала, прыводзіла прыклады яшчэ горшых калек, якія імкнуліся выжыць, каб радавацца хаця б таму, што бачаць свет і адчуваюць сябе хай не зусім паўнацэннымі, але людзьмі. У тым адзіным воку Наталля Мікалаеўна змагла разгледзець і ўлавіць жаданне жыць і ўсімі сіламі старалася маральна падтрымаць Максіма, падбадзёрвала яго. Калі Максіма адпраўлялі ў шпіталь, ён сказаў на развітанне Наталлі Мікалаеўне:

— Калі б не вы, не ведаю, ці выжыў бы я. Жаночае слова лепш за лякарства. Дзякуй вам за ўсё...

Колькі тых падзяк, шчырых, цёплых слоў удзячнасці за сваю працу чула Наталля Мікалаеўна за гады вайны. Не падлічыць. І ўжо ў мірны час не аднойчы ваенурач сустракала сваіх былых пацыентаў. Нібы сваю маці пасля доўгага расстання, абдымалі Наталлю Мікалаеўну. Былі і слёзы радасці, і ўспаміны, і расказы аб пасляваенным жыцці.

Вайна зблізіла і пароднила многіх. І медыкі парамі вярталіся з фронту. І не толькі яны. Магла і Наталля вырашыць свой асабісты лёс у тыя суровыя гады, але, па праўдзе кажучы, рашыла інакш: толькі пасля вайны. Яно так і сталася. Працуючы ў санчасці ў г. Навагрудку, і сустрэла свайго суджанага. Нарадзіла сына. Ён ужо дарослы, мае сваю сям'ю. Жыве ў Мінску.

Дарэчы, Наталлін муж Андрэй Міхайлавіч таксама прайшоў усю вайну і ў мірны час да пенсіі служыў у органах унутраных спраў.

35 гадоў Наталля Мікалаеўна на заслужаным адпачынку. Разам з мужам жыве ў Івацэвічах. Абое, як кажуць, у гадах. Гаспадыні ў жніўні споўніўся 91. Нягледзячы на свае шматлікія хваробы, яна пацяху, абапіраючыся на кій, тупае ў хаце. І абед прыгатуе, і ў пакоях прыбярэ.

— Вось такія мы, старыя, нездальчыя, — кажа Наталля Мікалаеўна. — Дажываем свой век. Вось сын прыехаў. Што-колечы паможа нам...

Наталля Мікалаеўна ахвотна паказвае свае дакументы ваенных гадоў, свае ўзнагароды. Праца ваенурача адзначана дастойна: медаль "За баявыя заслугі", ордэны Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны ІІ ступені, з дзесятак розных медалёў, падзякі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага...

Седзячы на канапе, Елісеева гаварыла пра мінулае, пра сённяшні дзень. Пасля хваробы ёй сапраўды цяжка ўспомніць пра ўсё. Але яна старалася. Напружвала памяць, нібы вярталася ў сваю ваенную маладосць. У яе вачах, трохі задуменных, светлых і пранікнёных, па-ранейшаму гарэла прага да жыцця. Хай не тухне гэтае жыццесцвярджальнае імкненне. Імкненне, як і ў тыя далёкія вогненныя гады, жыць насуперак усім перашкодам і цяжкасцям. Жыць і перамагаць. Так трымаць, ваенурач Елісеева!

*С. КАЖАДУБ.*

*г. Івацэвічы.*



Н. М. Елісеева разам з мужам Андрэем Міхайлавічам (фота 1948 года).

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Па саджанцы

***— Гэта рэдакцыя "Газеты для вас"? Настаў час набываць пасадачны матэрыял. Падскажыце, калі ласка, адрасы пітомнікаў, дзе можна купіць саджанцы.***

***Мужчынскі голас.***

Вось адрасы пітомнікаў, размешчаных у Брэсцкай вобласці:

**г. Пружаны**, вул. Урбановіча, 5, абласная доследная станцыя, тэлефоны **2-23-71** і **2-25-01**;

**Баранавіцкі раён**, вёска Петкавічы, саўгас імя Чарнышова, тэлефоны **3-91-45** і **3-91-73**;

**Столінскі раён**, вёска Беражное, калгас імя Леніна, тэлефоны **4-12-96** і **4-13-18**;

**Брэсцкі раён**, вёска Вінічы, саўгас "Рассвет", тэлефоны **56-66-89** і **91-91-45**.

Спецыялісты раяць аддаваць перавагу дзяржаўным пітомнікам. Селекцыя ў іх на добрым узроўні, няма блытаніны з гатункамі. Тут могуць параіць, што і дзе пасадзіць, дадуць поўную характарыстыку кожнаму гатунку. А ў выпадку няўдачы ў вас ёсць магчымасць з каго спытаць, звярнуцца ў пітомнік, каб саджанцы замянілі.

# Калі возьмуцца за веласіпедыстаў?

***— Паважаная "Газета для вас"! Ці нельга даведацца, калі, нарэшце, нашы работнікі ДАІ кінуць свае радары і іншыя цацкі, а возьмуцца за веласіпедыстаў. З-за іх жа немагчыма па гораду праехаць. Ездзяць цэлымі натоўпамі, шарэнгамі. Асабліва раніцай і вечарам. І не чуваць, каб іх хтосьці аштрафаваў. Учора вечарам ледзь не падбіла п'янага, які не ехаў, а фокусы выпісваў на праезнай частцы. Нават зараз рукі трасуцца, калі ўспамінаю пра гэты выпадак.***

***Наталля КАСАВЕЦ (г. Івацэвічы).***

Наша газета часта піша пра трагічныя здарэнні на дарогах і пра наезды на веласіпедыстаў. І трэба заўважыць, што нашы супрацоўнікі ДАІ ўсё ж такі не пакідаюць гэтых удзельнікаў руху па-за ўвагай. Усё ж такі праводзяцца час ад часу аперацыі "Веласіпедыст", як і, да прыкладу, "Матацыкліст", "Пешаход".

Іншая справа, што нашы ўдзельнікі дарожнага руху вельмі абыякава ставяцца да выканання патрабаванняў Правіл. Хоць абыякавасць веласіпедыстаў здзіўляе: у выпадку сутыкнення гэты ўдзельнік дарожнага руху церпіць больш, чым хто іншы. Таму важна, каб веласіпед быў абсталяваны катафотамі і ззаду, і спераду, і з бакоў, а сам веласіпедыст паважаў і выконваў патрабаванні Правіл.

А Вы, Наталля, у рэшце рэшт, калі бачыце выпадак асаблівай непавагі да Правіл, можаце звярнуцца і ў міліцыю. Яна прыме дзейсныя меры да парушальніка.

● ПАМЯЦЬ

# Іх вечныя агні

**АНОДЗІН Пётр Іванавіч.**
**ГАРДЗЕЙЧЫК Пётр Іванавіч.**

Мае былыя аднакласнікі. Абодва загінулі ў Афганістане. Адзін — летам, другі — зімой. Праз паўгода. Паўтара дзесятка гадоў таму. Да гэтага часу добра іх помню і часта ўспамінаю.

Не змог я папрасіць у маці гэтых хлопцаў падрабязнага расказу пра сыноў, пра абставіны іх смерці. У маці Пеці Анодзіна, Вольгі Ігнатаўны, як толькі завёў размову пра яго, з'явіліся слёзы ў вачах. Таму няхай мне даруюць Вольга Ігнатаўна і Надзея Васільеўна за тое, што я ў артыкуле прывёў цытаты з пісем іх сыноў, а з кнігі Святланы Алексіевіч "Цинковые мальчики".

Пра тое, што загінуў першы аднакласнік, даведаўся ўжо пасля яго пахавання, калі вярнуўся дамоў са студэнцкага будаўнічага атрада. На пахаванні другога — быў.

"Я сидела у гроба и спрашивала: "Кто там? Ты ли там, сынок?" Только это и повторяла: "Кто там? Ты ли там, сынок?" Все решили, что я сошла с ума".

Помню бацькоў Гардзейчыка Пеці. Маці, у якой ужо не было сіл галасіць, і акамянелы твар бацькі. Цынкавая труна з маленькім акенцам, замазаным знутры. Труну адкрыць не дазволілі ваенныя. Потым яе неслі на плячах аднакласнікі, знаёмыя, сваякі да магілак. Пахаванне...

Зараз на магілах двух Пецяў стаяць помнікі з мармуру з фатаграфіямі і датамі жыцця гэтых хлопцаў.

"На кладбище летишь, как на встречу. Будто сына увижу. Первые дни ночевала там. И не страшно. Я теперь полет птиц очень понимаю, и как трава колышется. Весной жду, когда цветок ко мне из земли вырвется. Подснежники посадила... Чтобы скорее дождаться привет от сына... Они оттуда ко мне поднимаются... От него..."

Загінулі маладыя хлопцы, як і тысячы іншых на афганскай зямлі. За што?

"Мы перед Родиной чисты. Я честно выполнил свой солдатский долг. Слышал, читал: сейчас эту войну называют "грязной". А как быть с такими чувствами, как чувство Родины, народа, долга? Родина для вас пустой звук? Мы перед Родиной чисты..."

Хлопцы верылі ў тое, што прыйшлі на афганскую зямлю з дабром, што яны не "памылковыя франтавікі з памылковай вайны". Шчырыя і адкрытыя хлопцы, добрыя, верныя сябры. Шкада...

Шкада іх маці, якія і зараз, успамінаючы сваіх сыноў, плачуць.

***В. КАВАЛЬЧУК,***
***настаўнік беларускай мовы і літаратуры***
***Святавольскай СШ.***

● КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

XXX

Я сама свою дорогу
Выбираю в темноте.
Я твой голос слышу, слышу...
И иду, как по воде.
Если вера будет хрупкой —
Растеряюсь, утону.
Если я тебе поверю —
Не замечу глубину.

XXX

В ней что-то от Бога.
От дьявола что-то...
Покорность, порочность,
Мечта и свобода...
Она лучезарна в любви.
Хитра и в обиде коварна,
Никем другим её не заменить
Ибо она есть Женщина.

*Н. КОПЫТИЧ,*
*студентка факультета журналистики*
*БГУ им. Ленина.*

